# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 10 (1660) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 6 САКАВІКА 1988 г. ЦАНА 12 зл.




## НАЙПРЫГАЖЭЙШАЯ на ПАДЛЯШШЫ 1988 года — ВЫПУСКНІЦА БЕЛЬСКАГА БЕЛАРУСКАГА ЛІЦЭЯ!

Яшчэ да нядаўна Бельскі беларускі ліцэй амаль напракалі ў тым, што з'яўляецца ён „кузняй алімпійцаў". Але так наогул, дык дзякуючы поспехам вучняў, якія прымалі ўдзел у розных алімпіядах і перамагалі (!), ён быў найбольш вядомы. Вось і ў апошні час, калі адбывалася Акруговая біялагічная алімпіяда, можна было заўважыць незвычайныя здольнасці Ані Дзмітрук, якая па тэсце набрала найбольш (92 на 100 магчымых) пунктаў **у цэлай краіне**; а тэсты ж усюды былі аднолькавыя.

Як высветлілася ў апошні час, ліцэй не сказаў свайго апошняга слова і невядома яшчэ, якія магчымасці і здольнасці дрэмлюць сярод яго вучняў і выпускнікоў.

Не будзем сёння падкрэсліваць таго, што **Ірына Кокець** у мінулым годзе паспяхова закончыла гэты ліцэй і не менш паспяхова здала экзамены ў Варшаўскі універсітэт. Гэта ж — справа ўжо амаль звычайная, бо большасць выпускнікоў Бельскага беларускага ліцэя без клопатаў паступае ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Польшчы і іншых краін, асабліва СССР і ГДР.

Сканцэнтруемся на цалкам іншым напрамку папулярнасці Бельскага беларускага ліцэя. Аказваецца, што прыгажуняў ён выпускае таксама!

Вось у палове лютага гэтага года ў Беластоку адбыліся выбары „Міс Падляшша '88" або, інакш кажучы, выбары найпрыгажэйшай дзяўчыны Падляшша 1988 года.

„Кур'ер Падляшскі", які раскруціў усю акцыю, арганізоўваў усё, запрашаў, намаўляў, захвочваў, што будзе тэлевізар ва ўзнагароду, і падрыхтоўваў. Дзяўчаты, аднак, збіраліся на конкурс даволі неахвотна: адны запісваліся, другія выпісваліся, прыходзілі на рэпетыцыі і адыходзілі, урэшце-рэшт засталося іх 18. Перамагла ж 19-гадовая **Ірына Кокець, студэнтка І курса Філіяла Варшаўскага універсітэта (факультэта педагогікі і псіхалогіі), мінулагодняя вы-**

(Працяг на стар. 4)

## АГЛЯД У СУХАВОЛІ

На гэты агляд ехаў я з асаблівай цікавасцю таму, што ў Сухаволі яшчэ ніколі не арганізавалі конкурсаў на беларускую песню, хаця ў навакольных вёсках, у сямейных засценках і пры сяброўскіх кантактах, усё яшчэ гучыць спрадвечная беларуская гаворка, вельмі блізкая да сучаснай, агульнапрынятай беларускай літаратурнай мовы. Карыстаюцца ёю тут людзі і праваслаўнага, і каталіцкага веравызнання.

**Марыя Кульгавік** — дырэктар сухавольскага гмiннага асяродка культуры сказала мне:

— Я вельмі рада, што ўдалося дабіцца, каб на гэты раз раённы агляд савецкай песні супольна з беларускай адбыўся ў Сухаволі.

Раней, калі яна яшчэ займалася культурай у Дуброўскай гміне (тады называлася Каленік), дык дзякуючы яе намаганням пачулі мы беларускія народныя песні, найперш у выкананні жаночага калектыву з Грабянёў, затым з вёсак: **Хільмоны-вёска і Хільмоны-калёнія.**

У выпадку Грабянёў было гэта нейкіх 12 гадоў таму назад. Я добра памятаю, з якім здзіўленнем і нечаканасцю прывіталі мы гэты жаночы хор у шматлюднай сямейцы ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці на Беласточчыне. Захапляў ён сваёй аўтэнтычнасцю. Калектыў шчасліва праіснаваў да сёння. Назвалі яго „Рабіна".

Хор складаюць дзевяць жанчын. Гэта: Марыя Самойлік, Марыя Беламызы, Надзея Гардзейчык, Вольга Самойлік, Надзея Бакун, Вера Парфен, Леаніла Барыс, Зіна Клеменс і Марыя Сівіцкая.

(Працяг на стар. 6)



# БЕЛАРУСІКІ

Kosman Marceli, Historia Białorusi, Wrocław 1979. Rec. Grygajtis Krzysztof, *Przegląd Historyczny* 1981, z. 2, s. 323—325; Lawal Paweł de, *Acta Baltico-Slavica* t. 15, 1983, s. 306—309; Rachuba Andrzej, *Zapiski Historyczne* 1981, z. 3, s. 167—172; Serczyk Władysław A(ndrzej), *Nowe Książki* 1979, nr 19, s. 5—7, il.; Stępień Stanisław, *Przegląd Humanistyczny* 1980, nr 6, s. 169—178; Wojna Romuald, *Kwartalnik Historyczny* 1980, nr 3/4, s. 693—700; Bazyłow Ludwik, *Kontrasty* 1980, nr 4, s. 47—48.

Kosowicz Paweł, Białoruś, Białoruś (Dzieje Rakowa i jego okolic), *Kontrasty* 1980, nr 7, s. 48.

Kostrzewa Krystyna, Zaproszenie na Białoruś, korespondencja z Mińska, *Trybuna Ludu* 1972, nr 58, s. 7.

Kot Zbigniew, Nad Swisłoczą, Białoruska SRR, *Perspektywy* 1973, nr 29, s. 18, il.

Kotarbiński Tadeusz, Typowcy i dysydenci (Problemy narodowościowe w Polsce Ludowej), *Tygodnik Kulturalny* 1966, nr 5, s. 1.

Kozłowskaja N. W., Parfienow W. I., Chorołogija flory Biełorussii, Minsk 1972. Rec. Kornaś Jan, *Zeszyty Naukowe UJ* Prace Botaniczne 1975, z. 3, s. 95—98.

Kozłowskij P. G., Kriestjanie Biełorussii wo wtoroj połowinie XVII—XVIII w. (po materiałam magnatskich wotczin), Mińsk 1969. Rec. Żytkowicz Leonid, *Roczniki Dziejów Społecznych i Gospodarczych* t. 32, 1971, s. 221—227.

Kozłowskij Pawieł, Struktura własności ziemskiej i faktycznego posiadania ziemi w zachodniej i środkowej Białorusi w drugiej połowie XVIII w., tł., *Roczniki Dziejów Społecznych i Gospodarczych* t. 33, 1972, s. 61—88, tab., res.

Kozłowskij Pawieł, Magnatskoje choziajstwo Biełorussii wo wtoroj połowinie XVIII w., Mińsk 1974. Rec. Drozdowski Marian, *Kwartalnik Historyczny* 1975, nr 1, s. 179—182; Żytkowicz Leonid, *Roczniki Dziejów Społecznych i Gospodarczych* t. 36, 1975, s. 128—136, tab.

Krajewska Helena, Białoruskie malarstwo w Warszawie, *Przegląd Artystyczny* 1972, nr. 3, s. 15—19, il., res.

Krajski Wacław, Lasy Białorusi i problem podniesienia ich zasobności. *Sylwan* 1967, nr 8, s. 57—63.

Krakowski Stefan, Grabski Andrzej Feliks, Dzieje Polski feudalnej (do 1795 r.) w rosyjskiej, ukraińskiej i białoruskiej historiografii szlachecko-burżuazyjnej, *Kwartalnik Instytutu Polsko-Radzieckiego* 1956, nr 3/4, s. 180—209.

Kramko Iwan, Jurewicz Alena, Janowicz Alena, Historyja biełaruskaj litaraturnaj mowy, Mińsk 1968. Rec. Obrębska-Jabłońska A(ntonina). *Slavia Orientalis* 1971, nr 1, s. 102—104.

Krasucki Ludwik, W imię przyszłości, korespondencja z Mińska, *Trybuna Ludu* 1972, nr 195, s. 2.

Kraszewski Jerzy, „Jeden jest wietnamski naród", Konferencja prasowa przedstawiciela NFW w ZSRR; Białoruskie spotkania polskiego ambasadora, korespondencja z Moskwy, ZSRR. *Trybuna Ludu* 1968, nr 170, s. 8, nr 173, s. 2.

Kraszewski Jerzy, Wieś piętrowa, Z białoruskiego notatnika; Upowszechnienie wiedzy ekonomicznej, Jednolity organizm, Kanał Wołga—Ural, Turbina do mocy 1200 MW, korespondencja z Moskwy, *Trybuna Ludu* 1972, nr 308, s. 6, nr 325, 329, 331, 334, s. 2.

Kraśko Ryszard, Z podróży po Białorusi, Gdzieś nad Wilii brzegiem, *Kontrasty* 1969, nr. 9, s. 20—21.

Kraśko Ryszard, Z podróży po Białorusi, W kręgu Mickiewicza, *Kontrasty* 1969, nr 10, s. 18—19, 30.

Krivickij A. A., Michnović A. E., Podlužnyj A. I., Belorusskij jazyk dlja niebielorusov, Mińsk 1973. Rec. Smułkowa E., *Slavia Orientalis* R. 23, 1974, nr 4, s. 506—508; też *Acta Baltico-Slavica* t. 9, 1976, s. 306—307.

Kryvicki A. A., U rytmie z razviecciom movy, Mińsk 1976. Rec. Fałowski A., *Slavia Orientalis* R. 27, 1978, nr 1, s. 144—145.

**Р.С.**



## Свойскія малюнкі



*Беласток, вул. Сянкевіча. Мал. Ул. Петрука.*

# НАЙПРЫГАЖЭЙШАЯ НА ПАДЛЯШШЫ 1988 ГОДА

(Працяг са стар. 1)

**пускніца біялагічна-фізічнага класа Бельскага беларускага ліцэя.**

А ўжо ж год таму назад, тады калі Ірынка была яшчэ вучаніцай IV класа Беларускага ліцэя ў Бельску і брала ўдзел у „атрасінах" першых класаў, многія захапляліся яе нештодзённай прыгажосцю і асаблівай абаяльнасцю. Ірынка выступіла тады ў ролі каралевы і ўвесь яе ўбор і выгляд сведчылі аб небанальным гусце дзяўчыны.

Журы конкурсу на найпрыгажэйшую дзяўчыну Падляшша было настолькі падкуплена гэтай абаяльнасцю Ірыны, што прызнала ёй менавіта першае месца, нягледзячы на яе чорныя валасы і карыя вочы. Вядома ж, што ў нашай зоне найпрыгажэйшую дзяўчыну выбіраюць наогул сярод бландзінак з блакітнымі вачыма. Ну што ж, журы напэўна мела рацыю, было яно шматлічнае і патрабавальнае, а да таго ж у асноўным складалася... з мужчын, хаця б і былі яны галоўнымі рэдактарамі. У Ірынкі слушны рост — 172 сантыметры, аб'ём грудзей — 84 см, бёдраў — 86 см, а нарадзілася яна веснавой парою, у маі, і разлічвае, што будзе мець шчасце ў каханні.

Але фізічныя валёры — гэта яшчэ не ўсё. Гэта дала ёй маці-натура. Да ўсяго гэтага трэба яшчэ мець адвагу! Адвагу, каб выйсці на сцэну перад поўнай тэатральнай залай і... паказаць сябе! Вядома, калі, крый Божа, гэта адвага не спалучана з бракам самакрытыцызму. Памятаю, як калісь вядомая фатаграфка Зофія Насяроўская, якая была ў журы цэнтральнага конкурсу ў Варшаве, сказала: „У зале сядзелі дзяўчаты ў сто разоў прыгажэйшыя, чым тыя, якія прабавалі дэманстраваць сваю прывабнасць на сцэне!" І таму многія дзяўчаты, прыйшоўшы адразу з вялікай ахвотай, праз нейкі час рэзыгнавалі, не вытрымлівалі нервовага напружання. Ірына не зрэзыгнавала. І з той васемнаццаткі дзяўчат, якія засталіся і вытрымалі да канца, аказалася найпрыгажэйшай! Выйграла каляровы тэлевізар „Геліёс" і возьме ўдзел у паўфіналах агульнапольскага конкурсу „Міс Палонія".

Брава „Кур'еру Падляшскаму" і журы за трапны выбар найпрыгажэйшай дзяўчыны Падляшша 1988 года! Але, дарагі суседзе... дзяўчат то нашых выбіраеце, а запрашэння для „Нівы" не хапіла?! Ці думаеце, што ў нас на прыгожае вачэй не маюць?

**Ада Чачуга**

**Фота А. Сакульскага**




(Працяг са стар. 2)

Выходзім на двор, да фантанаў, пад якія лонданцы нырают у наваголнюю ноч. Адсюль Трафальгар-сквер. Быдта пабачаныя ў галерэі анёлы, злятаюцца на начное неба святлістыя пасажырскія самалёты, адзін за адным праз кожныя тры хвіліны, апускаючыся ў напрамку Гітраў, самага вялікага, кажуць, аэрапорта свету. Часам бракуе каму з іх месца для пасадкі; адлятае над Норд-Лондан, чакаючы ў нябёсах чаргі. На міжкантынентальных лініях з'яўляюцца „лётаючыя гатэлі" — са спальнымі пакоікамі.

Буяць па-над Скарынінкай, бывае, досыць перашкаджаючы. Недзе брэх сабакі, па-беластоцку свойскі... Забываюся пра чужыну, засеўшы пагартаць „Сялянскую Долю", неперыядычнае выданне пад эгідай Сувязі Беларускага Працоўнага Сялянства. Падпольная акцыя, ці легальная? І з чыйго боку? Мы, беларусы, без шматтомнай ф у н д а м е н т а л ь н а й гісторыі Беларусі, усё маячым на сцежках да верыфікацыі фактаў. Як знаходзіць патрэбныя звесткі? Заходнебеларускія газеты нараджаліся ды паміралі, як тыя дзеці ў паншчыну. Спрабуй разбярыся!

Бедны наш люд вёў нястойкую барацьбу, з худзенькім кашальком і з не надта асвечанай галавою. Чацверты нумар „Долі" за 1921 год адкрываецца рэзалюцыямі Беларускай Нацыянальна-Палітычнай нарады ў Празе Чэшскай 25—30 верасня т.г. Віраваў гістарычны момант, у які і спраўнейшыя за нас таксама хапаліся за брытву. Рыжскі дагавор санкцыянаваў вынікі польска-савецкай вайны 1920 года, выплывала на паверхню палітычнай хвалі Беларуская ССР з уласнай Беларускай Чырвонай Арміяй неўзабаве, варочаліся на стаўбцоўскі кардон эшалоны „бежанцаў" з бяскраю Расіі, гарэлі маёнткі і несла рэха партызанскую страляніну. Але рэвалюцыя не была ўжо ў стане імчаць галападаю далей, што разумелі тады нават не ўсе яе вядучыя лідэры.

Беларускія левыя сілы ўсякіх афарбовак — апрача дысцыплінаваных аўтарытэтам Леніна бальшавікоў — не праявілі рэалізму. Сляпіцаю перліся ў паўстанне супроць белапалякаў — азіраючыся то на Мінск, то на Каўнас, часовую сталіцу ўваскрэслай Літвы. „Сялянская Доля" і засакрэчаныя структуры тае Сувязі не выйшлі за цень „Мужыцкай Праўды", біліся за мінулыя ідэі. Гэта ж самагубнае намыльванне пятлі! Камінтэрн катэгарычна лячыў „дзіцячую хваробу" ура-рэвалюцыянерства КПЗБ. Каб „вум на розум не зайшоў": падбухторыць агалелы народ можа абы крыкун, але чым гэта скончыцца без цвёрдай саюзніцкай падтрымкі? А ў Каўнасе не сушылі сабе галавы гэтым, што Заходняя Беларусь косцьмі ляжа ў канфрантацыі з дывізіямі Пілсудскага. Дарэчы запытаць: ану, чым жа двухмільённая Літоўская Дзяржава прымусіла б дваццацімільённую Польшчу адмовіцца ад гродзенска-віленскіх „крэсаў"? Бесперспектыўную дзейнасць выдаваць за перспектыўную — гэта, грэх ці два, тупасць або дыверсія ў карысць суседа.

*„Сяляне!... Помніце, што зямлю і волю можна здабыць толькі ўласнымі сіламі!"* — тлустым шрыфтам кідае кліч рэдактар з літоўскай друкарні ў красавіку дваццаць другога. Знайшліся

Тое ж самае пачуў я і ад Вольгі Каленік, якая ў сваю чаргу з'яўляецца „добрым духам" калектыву „Дваранкі" з калёніі Хільмоны. Складаюць яго зараз дзесяць чалавек. Гэта: Галіна Барко, Вольга Каленік, Марыя Палубінская, Надзея Барыс, Галіна Януцік, Ядвіга Краўчук, Галіна Варанецкая, Анна Шчарбач, Надзея Шчарбач і Софія Шчарбач.

Разам співаюць яны ад 1979 года. Калёнія Хільмоны вельмі раскінута, здараецца, што і дватры кіламетры жыве сусед ад суседа. Нялёгка было Вользе Каленік сабраць сваіх сяброваку намовіць іх, каб захацелі супольна выступіць на сцэне.

Агляд, вядома, не мог адбыцца без конкурснай камісіі. У Сухаволі яе саставілі: Ежы Здановіч — настаўнік па спеву з мясцовай пачатковай школы, Уладзімір Парфен — інспектар ГП БГКТ на Дуброўскі раён і Вяслава Сычэўская — прадстаўнік Ваяводскага праўлення Таварыства польска-савецкай дружбы.

Такім чынам журы па раённаму адбору ў рамках XVII конкурсу савецкай і беларускай песні, які адбыўся 14.02.1988 г. у Сухаволі, заслухаўшы пяць калектываў і двух салістаў, пастанавіла ў катэгорыі савецкай песні галоўную ўзнагароду — паездку на ваяводскі адбор у Бельску-Падляшскім — прызнаць грам. Раману Бязубіку.

У катэгорыі беларускай песні яно прызнала тры аднолькавыя ўзнагароды і заклясіфікавала на цэнтральны агляд „Беларуская песня-88" у Беластоку калектывы: „Падлясянкі", „Рабіна" і „Дваранкі".

Узнагароды для ўсіх удзельнікаў агляду даў Дом культуры ў Дуброве.

БГКТ на аглядзе ў Сухаволі прадстаўлялі: сакратар ГП Аляксандр Іваноўскі і старшыня Праўлення аддзела БГКТ у Дуброве-Беластоцкай Аркадзь Суліма. Гэта шчыры наш дзеяч. Разумее ён патрэбы і недахопы дзейнасці БГКТ у сваім раёне.

— Нам патрэбны спецыяліст па спеву, які ведаў бы беларускую мову, — кажа ён. — Найлепш, каб быў гэта настаўнік. Для такога чалавека ёсць у Дуброве добрая кватэра і гарантаваная праца.

Калі ласка, можа кагосьці спакусіць гэтая заманлівая прапанова! Аматарскаму руху на Дуброўшчыне, сапраўды, неадкладна трэба дапамагчы.

**Віктар Рудчык**
**Фота аўтара**



**„Дваранкі" з Хільмонаў-калёніі.**



**„Падлясянкі" з Хільмонаў-вёскі.**



**„Рабіна." з Грабянёў.**

краіны, у Маскву адпраўляцца было вельмі небяспечна. Заняткі ў школе і ў школьнай майстэрні займалі ў іх практычна цэлы дзень.

У „чырвоным" кутку школы паявіўся новы вялікі каляровы плакат: салдат прагна піў ваду са сваёй стальной каскі. Надпіс паясняў:

„Пьём воду родного Днепра.
Будем пить из Прута, Нёмана, Буга!
Очистим советскую землю от фашистской нечисти!"

Плакат гэты паланіў думкі юнака. На беразе Нёмана, у Гродне, прайшло ж яго дзяцінства. Хацелася туды вярнуцца! Дырэктар паддаўся просьбам гэтага палячка-камсамольца, які руплiва выконваў усе абавязкі вучня і юнага рабочага, засвойваючы сабе прафесію шафёра, і выпісаў яму пропуск у Маскву.

Была ўжо вясна 1944 года, вясна надзеі на хуткае вяртанне дамоў. З пропускам у руках Генрык Букерт апынуўся ў памяшканні Галоўнага праўлення Саюза польскіх патрыётаў.

Трапіў на Эдварда Охаба. Генрык загадзя падрыхтаваў сабе каляровую казачку аб сваім лёсе, у якой найбольш перакаўчым момантам мела быць доля сіраты, бацькі якога, польскія камуністы, — у час уцёкаў ад гітлераўскіх агрэсараў трапілі пад бамбёжку варожай авіяцыі і загінулі. Гэтага ніхто не праверыць, — апраўдваў сябе ён.

— Хачу да Войска Польскага! — толькі і сказаў ён не надта ўпэўненым голасам.

Эдвард Охаб коратка распытаў, хто ён, адкуль, колькі яму гадоў.

— Семнаццаць! — схлусіў Генрык, выцягнуўшыся струною ўверх, каб яму паверылі.

— Накіруем яго ў Сельцы, — — звярнуўся Охаб да нейкай маладзенькай супрацоўніцы. — Там дакладна разбяруцца, хто ён і што з ім трэба зрабіць! — рашыў.

Генрык Букерт схапіў накіраванне і без аглядкі выскачыў у калідор. Ад радасці ледзь не збіў з ног нейкую жанчыну.

— Ты што? — абурылася яна, схапіўшы яго ў свае абдымкі. — Чаго так разагнаўся?

Генрык глянуў ёй у твар і тут жа бадзёрасць як рукой зняло. Пазнаў. Гэта была тая ж самая жанчына, якая наведвала іх дзіцячы дом у Каракуліне і якой ён, Генрык Букерт, асабіста з вялікім гонарам падаваў абед.

— Ты што тут робіш?! — не скрывала яна свайго здзіўлення.

— У Войска Польскае адпраўляюся! — адказаў ёй Генрык.

— Ты, дзіцё, у войска?! Ці тут ужо зусім падурнелі? — яна проста не хацела верыць таму, што чуе.

— Вось, у мяне накіраванне! — бараніўся юнак.

— Значыць, не хацелася табе вучыцца! Ты ўцёк з Каракуліна! — грозна сцвердзіла жанчына. Генрык зразумеў, што адзіны яго ратунак — у нагах. Адсунуў ад сябе астаўбянелую жанчыну і скочыў да дзвярэй.

— Вартаўнік! — крыкнула жанчына. — Спыніце гэтага смаркача!

Вартаўнік стаяў ля дзвярэй. Быў гэта польскі салдат. Схапіў хлопца за каўнер і літаральна падняў яго адной рукою ўверх. Генрыкава хлусня выявілася. Адабралі ў яго накіраванне ў Сельцы, дзе тады абучаліся і фарміраваліся наступныя часці будучай Польскай Арміі ў СССР. Загадалі вяртацца аж у Каракуліна.

— А пакуль аформім дакументы на твой праезд, пажывеш крыху ў Данілаўскім прыёмніку! — заявіла жанчына, якую ён так шчыра карміў у Каракуліне.

— Ведаеш, як дабрацца ў Данілаўскі прыёмнік? — пацікавілася гэта жанчына, упэўненая ў тым, што яе рашэнне павінна проста ашчасліваць маладога чалавека.

— Ведаю, — адказаў Генрык, успомніўшы сваё папярэдняе кватараванне ў гэтым колішнім манастыры, які перабудавалі на дзіцячы прыют.

— Трэба дабрацца на Яраслаўскі вакзал, — паінфармавала яшчэ гэтая жанчына.

— Але ў мяне няма грошай на метро! — адказаў ёй Генрык. Жанчына падала яму рублёўку.

— Памяняеш сабе, — сказала яна і ў яе вачах Генрык прыкмеціў слёзы. — Дзеці, дзеці... за што вы так церпіце?! — прашаптала яна і падала Генрыку руку. — Ну, бывай, камсамолец! Сустрэнемся ў Каракуліне.

Генрык падаў руку на развітанне і павярнуўся, але ў Данілаўскі прыёмнік ён не накіраваўся.

**Віктар Рудчык**

## ТРЫ АДКРЫЦЦІ

**(Гумарэска на тры часткі з эпілогам)**

**Частка першая**

— Добра! — сказаў Архімед, апускаючыся ў ванну.

Выцiснутая яго целам вада палілася на падлогу.

— О богі! — крыкнуў Архімед. — Што я скажу жонцы?

І стаў ліхаманкава думаць.

Праз дзесяць хвілін ён прыдумаў закон Архімеда.

**Частка другая**

— Добра! — сказаў Ньютан, седзячы ў садзе пад яблыняй.

Гнілое яблыка ўпала на яго і забрудзіла яму кашулю.

— Божа! — крыкнуў Ньютан. — Што я скажу жонцы?

І стаў ліхаманкава думаць.

Праз дзесяць хвілін ён прыдумаў закон сусветнага прыцягнення.

**Частка трэцяя**

— Добра! — сказаў я, закончыўшы чытаць яшчэ адзін дэтэктыў. І тут жа ўспомніў, што не прыбраў у хаце да вяртання жонкі.

— Госпадзі! — крыкнуў я. — Што ж я скажу жонцы?

І стаў ліхаманкава думаць.

Праз дзесяць хвілін я прыдумаў гэту гумарэску.

**Эпілог**

— Калі я правільна зразумела, — сказала рэдактар, — ваша ўласнае адкрыццё можна сфармуляваць так: вялікія адкрыцці робяцца таму, што мужчыны баяцца сваіх жонак?

— Не, — адказаў я, — яно фармулюецца інакш: мужчыны лічаць за лепшае рабіць вялікія адкрыцці, чым дробную работу па гаспадарцы.

— Вось як! — сказала рэдактар і, падумаўшы дзесяць хвілін, выставіла мяне за дзверы разам з рукапісам.

**Яўген Тураўскі**

З суседскага агародчыка









— О, Божа! Усюды мне трапляюцца маньякі!

## ПРАКТЫЧНЫ

— І што ты падараваў жонцы на Дзень жанчын?

— Губную памаду.

— Практычна. Наступова ты атрымаеш яе назад.

## ДЗІВАКІ

Ён цалуе яе. Потым пытае:

— Люба, я перцы мужчына, які цябе пацалаваў?

— Ну вядома! Нават дзіўна, што ўсе мужчыны пытаюць адно і тое ж.

## „СПЕЦ"

Выбіваў Лявон дыван.
З дому выглянуў Іван.
— Гляньце вы на чалавека.
Хто ж так робіць? Вось няўмека!
Ты на снег дыван кладзі,
Зверху трошкі пахадзі,
Пасыпай яго снежком
І бяжы па ім труцком.
Потым вешай і давай,
Вытрасай ды выбівай.
Слухае Лявон парады,
Справа ладзіцца, ён рады.
— Ай, Іване, зух хлапец,
Бачу, ты у гэтым спец.
Той рагоча:
— Кінь Лявонка,
Насмяшыў мяне, дзівак:
У суботу мая жонка
Кожны тыдзень робіць так!

**У. Мацвеенка**

## ДАВЕДАЛАСЯ

— Тры гады, — гаворыць маладая задрыпанка сваёй сяброўцы, — я не мела ўяўлення, дзе мой муж праводзіць вечары. Але калі аднойчы раней прыйшла дадому, дык выявілася, што дома!



Гора і радасць яны дзялілі папалам — ёй гора, яму — радасць.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Мэры і Мік — старыя сябры. Кожны вечар, замкнуўшы краму, Мэры ідзе да Міка, рыхтуе яму вячэру, а потым мые посуд, прыбіраецца і вяртаецца да сябе дадому.

Так праходзіць трыццаць год. Урэшце аднойчы вечарам Мэры гаворыць свайму сябру:

— Скажы, Мік, а табе не здаецца, што нам пара завесці сям'ю?

— Эх, Мэры, — уздыхае Мік. — Хто нас цяпер возьме?

— * —

Суддзя: — Грамадзянка, колькі вам год?

— Сорак адзін год і некалькі месяцаў.

— А канкрэтна, колькі месяцаў?

— Сто пяцьдзесят чатыры.

— * —

Маша папрасіла старэйшую сястру купіць цацку. Тая адказала, што ў яе мала грошай — толькі адзін рубель. Тады Маша падказала:

— А ты разменяй яго на капейкі...

— * —

— Цяпер асталося чыстае глупства, пані консульша!

З „Весніка Задрыпоніі"

## РЭКЛАМА

Купіце жонцы боцікі Ачупінаўскай абутковай фабрыкі. І можаце быць спакойны. Цяпер яна не ўцячэ да другога.

## ХРОНІКА

У сувязі з жаніцьбай вядомы сэрцаед Д. Жуанюк стаў вегетарыянцам.



Амур рыхтуецца да сезона.

## ДЗЕСЯЦЬ ЗАПАВЕДЗЕЙ

**(жанчынам)**

1. Завучы аксіёму: колькі ні вучыся, а замуж выходзіць давядзецца.
2. Калі хочаш, каб мужчыны насілі цябе на руках, ідзі ў балерыны.
3. Калі мужчына запрапануе табе сэрца, прасі ў яго і руку ў міністэрстве.
4. Памятай: моды на мужчын мяняюцца так часта, што ты можаш не паспець выйсці замуж.
5. Свавольнаму мужу часцей нагадвай: узяўся за гуж, не гавары, што не муж.
6. Не запускай спадарожніка жыцця.
7. Падзяляй думку мужа! І пануй...
8. Не варта намыльваць шыю, калі на ёй сядзіш.
9. Калі сямейны ачаг пагас — грэйся ля тэлевізара.
10. Навучана горкім вопытам — навучы сяброўку!



— Робім адбіўныя!

## Курёзы

## КАПРЫЗ ДАМЫ

У Францыі ў XVIII стагоддзі жыў малады пісьменнік, а пазней — вядомы філосаф. Звалі яго Дэні Дзідро. У свой час ён пакахаў адну элегантную даму і быў гатовы дзеля яе на ўсё. Аднойчы дама патрабавала ад свайго каханага дарагую прыгожую сукенку. Але Дзідро быў бедны, грошай не меў, ведаў, што ніхто іх яму не пазычыць, а капрыз дамы трэба задаволіць...

У пошуках выхаду са становішча Дзідро зачыніўся ў сваім пакоі і за чатыры дні напісаў вядомыя „Філасофскія думкі". Занёс рукапіс выдаўцу, той заплаціў за яго аўтару 50 луідораў.

Так каханая Дзідро атрымала прыгожую сукенку, а Францыя і ўсё чалавецтва — выдатны твор.

## ПРЫКУСІ ЯЗЫК

Кампліменты — гэта цэлае мастацтва. Галантнасць заўсёды цанілася высока. Але кампліменты у некаторых выпадках яшчэ і абавязацельства. Напрыклад, у Тога мужчына, які зробіць камплімент жанчыне, павінен з ёй ажаніцца. Нічога тады дзіўнага, што нават самыя дасціпныя тагалезцы не заўсёды схільны да куртуазнасці, хоць закон і дазваляе ім мець да чатырох жонак.




Жонка сябра куды лепш, чым сябар жонкі.